Віктар Сямашка

# АЎТАР МАЕ РАЦЫЮ ЗАЎЖДЫ

ШЭСЬЦЬ ВЕРШАВАНЫХ ЦЫКЛЯЎ:

«Уяў»
«Біг-біт»
«Як стаць сьвятым»
«Чэрап і чэлес»
«Малапананапалам»
«Аўтар мае рацыю заўжды»
+
«Паэма М»

Agencja Wydawnicza Ekopress
Białystok 2023

Cancer

Co mi ey Maria oto ay ramie y moc
Co woney; ow pokoy y okop woien owoc

*Co mi ey Maria oto ay ramie y moc*
*Co woney; ow pokoy y okop woien owoc*



Symeon Połocki „Cancer”

**VIDE**

тэлебачу
пэдэрачу
хвілі трачу
на хваляў лоўлю
ці будзе што сёньня?
праграмы ня маю
ды прадчуваю –
нічога

аднак, глытаю
засаб усмоктваю
кроплі з сотаў
цялеснага візару
з кратаў экрану
ад гімну да гімну
агідна, ганебна
гіну

**ГУД**

жадаеш праўды? –
рыхтуй свой жуд

плоці худа
ад духу гуд

ісьціна танчыць
працьмай бакоў

дзьме ў дуду
плюе ў ваду

адно косткі
трашчаць
пад абцасамі

## VERBUM

час расьпірае часовасьцю,
вада набрыняе вадкасьцю:

гэты ложак, стол, батарэя –
пераседзець абы
да вясны

паўночныя дубы ўначы
таполі ды вербы
быць маюць падтопленымі...

рака,
што дагэтуль цякла
скрозь,
зрушыць і панясе

*ваду цяпер насычае verbum*
*ці гатовы растаць?*
*адасобіцца ад асобы?*
*ці здольны растацца?..*
*цурчаньне ўжо пакрысе*
*складае мэлясы*
*трэцца кропель натоўп –*
*вал мора гатовы*
*распасьціся ў піксэлі*

## 0 <

едзем дзе?
будзем дзе?
выпадзем?
зойдзем за?

які дзень будзе?
хто пабудзіць?
якая дата?
хто вінаваты?..

ці ёсьць нейкая розьніца? –
XXI-ае хутка скончыцца,
так і не па...

## ГАВЭНДА (БЕРВЯНО Ў ВОКУ)

стаўшы бывалым, пачуваесься быдлам
і з носу сыплецца счарсьцьвелы хлеб

цяпер – не раней:
лічыўся бязгрэшным, цэнтравым, разумным –
                    памылка
хочаш здавацца спакойным – бачысься стомленым
прагнеш успрымацца ўсемагутным – нагадваеш недалугу
                    і ня лепшаеш
жадаеш быць дабратворным – усьміхаесься дурнем
імкнесься падавацца мудрым – выглядаеш начытаным
                    ды дзе...

падзяляеш унутранае й зьнешняе
прыгожае зьвязваеш зь бясьпечным
ацэньваеш, хто бліжэй, –
шукаеш выгоднае тло
                    для цябе далекаваты Бог
                    ты ўпарты, дзе ня трэ’
                    чаргуеш мэйл і тэлефон
                    ахвоту да гавэнды не спатоліць сон

...і з носу сыплецца счарсьцьвелы хлеб

𝄽

дама ў абдымах дыму
з пыхай хавае похву –
каральная краля ў каралях

па-за масай
сам-насам
асобасна
тэорыю ночы
з практыкай дня
ўжываю да дна

модная мадам адна
бяз дому
мяшае сябе ў каве

разгортваю рыбіну
прыроды рабыню
старога гарту

пані чухае панчохі
з „хічкокам” у вачох
чакае на варту

*рух ціхуткі*
*па волі Тваёй*
*сьпяшацца ня варта –*

*паводле гадзіньніка*
*Месяца кварта*

*паводле прагнозу*
*паўсюдна дождж*

*прылюдна й прагна*
*акацыі*
*мыляцца*

кабета
прайшла ўсе пункты
ад альфа да бэта
жанчына
як першапрычына
няўдзячных акцыяў

у мэню рэстарацыі
страваў багата
дык у чым справа? –

выходзіш за дзьверы
нясыты
й зьбяднелы

*рух як рэха*
*чуваць не адразу*
*каштоўны сваімі паўзамі*

**ТРАП**

адзіны
дзень
дзіўны
ўзімку:

*лёгкія пялёсткі*
*густою бельлю*
*абнулілі фарбы*
*сьцерлі зямлю*
*як нешта няважнае...*

пара бязважкая
раіць
трапіць
у Рай

**МАРЛЯ**

і Ты
тым
кажаш,
што мы
тут
бачым
Сонцам, што тоне:

с
о с
н о с
ц н о с
а – ц – н – о – с

што блішчыць, а што вісіць
што круціцца
сном сок з марлі
сонмам над Сьвіслаччу кірлі
сынам сьвішчуць арэлі
усе мае кабеціны
зьбіраюцца на раніцу
упэўніцца ў здольнасьці
цела да працы:

с
с о
с о н
с о н ц
с – о – н – ц – а

## ЗЫК

яна задае тон і такт
памер і лад, тэмпарытм
трымае канстанту да самае коды

парушыш мэлёдыю –
выйдзеш з жанчыны
да Бога

...гугнявы клярнэт
шапялявая флейта –
ня лепшая зброя
вартых майстроў і настаўнікаў няма болей
вось так непісьменна, старанна,
бяз нотаў, на слых, празь зьнявагу
да Пана

## ГАВЭНДА II

паддаюся, каб табе не было балюча
не перашкаджаю тваім памылкам,
каб ты лепш уцяміў

ахвотна пагаджаюся
й рэзка адмаўляю,
апошняе, на жаль, рэгулярней

гаворым пра балючае й найпякнейшае
сур’ёзна, па-мужчынску
пра свае віны ды чыны

не ўспрымай, калі ласка,
маю далікатнасьць і ветлівасьць
ці тое, што раюся, як паразу

## АДЛІЎ

за жоўтым пара прысьпявае сіняму
дзьмухаўцы саступаюць абсяг
воўчым бабам

дзень ня йдзе такой паравінаю
воблакам пара ад закаханых
і ня хочаш лічыць правіны

дождж па ночы цячэ, булькоча
зерне сыпле на гзымс
упоперак зь ветрам
ці зь Месяцам уніз

пад раньне
выйдзеш адліць,
а вакол ужо вільгаць
яшчэ пару гадзінак сьпіш –
празрыстасьць мокрая
па-над зелянінай

нагам суха, сэрцу даткліва
ідуць па сьцежцы без спатыканьняў
набраць у вядро
мешань адлюстраваньняў

## УЧОРАКА (СІРОЧАЯ)

тутака татка
тамака матка
дзеці ёсьцека

татка ня тутака
матка ня тамака
дзеці дзесьцека

нямашака
цяперака
нікагошкі

***

грамадзянкі грымяць
грудзей кіляграмамі

кіраўнік лезе
праз скуру вонкі

дык недарма
суседка суседцы – судзьдзя,
ды спадар спадару – дарадца



**ІМЁНЫ**

разьбіраю старыя паперкі,
што згроб з падваконьня –

нейкія нумары ды імёны:
натальлі й таццяны
андрэі й ляксеі
пяты пад’езд і пяты паверх
дом 27, кватэра 72
кабінэты, пакоі ды дамафоны
гадзіны й хвіліны сустрэчаў...

між тым, на вулцы штоноч
гукаюць кагось

## ВЫ

той быў год яблыкаў
гэты – год вішань

яна завешаная гронкамі
з кожнае ягады – кропля
ад соку лопаюцца асобныя
кроў зьлізвай са шчылінаў

змакрэлы дубок
у вакенца пяліцца
зьзяе ліхтарным сьвятлом
лашчыць шкло, марыць…

то бок
дрэвы
(выпілаваў зь елкі новую прыступку)
дораць
(з сасны дошку да сьцяны прыбіў)
радасьць
(вішня расьце ў падлогу, заўваж)

## З <

тое, за што маліўся,
пакрысе пачынае
зьдзяйсьняцца

цябе па-ранейшаму
ўяўляю побач –
дапамагаю
супакойваю
суцяшаю
крыўдую
маўчу

прайшло тры гады
і наперадзе
бес-па-чат-ко-васьць

цяпер
катэгарычна дзякую
зусім не прашу

**АБЛОГА**

аблокаў аблога

у лозе нехта гарбату варыць –
дымка сьцелецца па полі (мабыць)
уздымаецца, як на дражджох, гусьцее
прытым нераўнамерна –
пасмамі, чубамі, кудламі

аблокаў абрыс альбо не –
своеасаблівы вечны вечар

**БАСТА!**

валявыя ўчынкі –
заўсёды памылкі
бадзяцца, гуляцца
баста!

не спадзявайся
няма спадзеву
я сабе
ня веру

ад любога
чакай благога:
ад старога
ад меншага

можа быць
што заўгодна
галоўнае помні:
да лепшага

студзень – чэрвень 2009

**АБЫХОД**

галава вала – валун / непахісна рахманая:
м-м-м-м-м-м-м-му-у-у-у-у-у-у-у-у-у-у-у!!!
рацыі завісь / думак налепка знутры

роў зьнямеў без ападкаў
трымціць павуціньне
трымае бярэзьнік
    напалову жоўты
    гарыць медзьдзю
    сьлепіць мёдам
дуб не пускае ў цень
аплікацыя ясеня
вынесла розум –
лісьце лепш не лічы

ды грыбоў, бач ты, плойма!
сьляды зьбіральнікаў скрозь буралом
імкнуцца ды губляюцца пад заваламі
    дрэвы падалі адно на адно
    скрыпелі зубамі, ламалі хрыбетнікі –
цяпер карэнныя вузлы шукаюць глебу

голае поле расчэсвае трактар /
палёўкі бягуць адваротна /
каршун пікіруе з крыкам /
крумкач ня менш гучна махае /
самалёты з хвастамі гудуць:
м-м-м-м-м-м-м-му-у-у-у-у-у-у-у-у-у-у-у!!!

ляжу ў каляіне
воблака-дзік рохкае, рые блакіт
воблака-краб грабе клюшнямі, шырыцца
аблокі спагадліва чысьцяць Сонца сваёю ватаю
аблокі шыхтамі сьлізгочуць па нябесным пухіры
    то павучок спусьціцца з галінкі паглядзець,
        а хто тут разьлёгся
то клешчык пачне шукаць мякчэйшага мейсца
то жабка забярэцца пад яйкі...

вяртаюся інтуітыўнаю сьцежкаю
з характэрнаю стану ўсьмешкаю –
зараз будзем малако есьці
ды грыбам запіваць!

## ВОДАРАСЬЦЬ

самае высокае дрэва з тутэйшых
у прыцэльным сьвятле зары
нагадвае водарасьць,
а паветра, адпаведна, – ваду:

водарасьць гойдаецца ў вадзе,
зь ліста на ліст ліючы зьзяньне

...мы ж, бывае, думаем,
хто з нас найбліжэй да Бога?
хто з нас самы „стромы”?

аднак Бог аднолькава блізкі:
чуеш? – салёна-крывавы пах мора,
што прынёс вецер з Балтыкі

## БАБА-РЫБА

*000100100010100010111000101 00*
зь нетраў нэту й альфабэту / вывудзіў фішэр кабету
бяз фарбаў на'т і прыгажэй / калі ўсьміхаецца – дык увогуле
гаворыць, праўда, па-рыбінаму:
... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ...

калека па працы мовіў: *„няма розьніцы між імі,
калі заплюшчваюць вочы ды адкрываюць рот –
клейкія вейкі, пара разцоў”*

і напраўду, недарэчныя стварэньні, – дадаў іншы задрот, –
невысокія падлеткападобныя гуманоіды /
бягуць, націраючы каленцы / жывуць па Месяцы /
пустыя, безасабовыя / ды цябе зробяць сабою:
... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ... ...

### ***

- супакой вам!

здабыў супакой,
пераехаўшы заходнюю мяжу
й далей наступную

ці калі прачнуўся ноччу ад смагі
й змусіў сябе працягнуць руку
да дрыготкае шклянкі з астылай гарбатай
ці калі пабачыў зоры ў небе рухавым...

мяжа за мяжой
мяжа за мяжой –
кругасьветка ад тае да той

- перадайце бліжняму
знак супакою

### ЦВЫРК

за жоўтай лістотай
такая ж Панна
рушыць праз поле
Вэнэра за ёю

Карэц завіс
акурат над хатай,
наліты міжзорнай вільгацьцю

падыспадам цвыркуны спаборнічаюць –
хто каго перасьпявае:
па трэцяй гадзіне ночы
застаўся адзін з сотні
яго заглушыла
шматкропле...

## ДУЛЯ

няма росту
няма прагрэсу

маем віраваньне
па арбіце праўды

ёсьць неабходныя хібы
ёсьць сонечны зайчык
ёсьць зьзяньне

няма геамэтрыі
ёсьць серада
ёсьць акіян і пена

сьвет – пена
я – хвігня

## ПУПОК

Поўні сьпелы пупок
на чарнаскурым целе –
белыя радзімкі

сябар сьмела сузірае то
на цёплым даху

*трактарыста працягвае тваражок:*
*- ці патрэбны?*
*- не,*
*учора малака трохлітроўкай*
*напхаў пуза*
*сырадой плюс сьлівы –*
*штораніцы па тазіку ападае,*
*суседзі прыносяць*
*гуркі, кабачкі, таматы –*
*хутка пупок разьвяжацца!*

твар трактарыста чорны
тварог трактарыста белы
як „радзімкі на целе...”

## БІГ-БІТ

*мужчына – out*
*кабета – input*

мужчына – сейбіт
кабета – носьбіт
мужчына – косьбіт
кабета – носьбіт
мужчына – малацьбіт
кабета – носьбіт

мужчына – ходзьбіт
кабета – носьбіт
мужчына – просьбіт
кабета – носьбіт
мужчына – барацьбіт
кабета – носьбіт

мужчына – вагабіт
кабета – носьбіт
мужчына – кульбіт
кабета – носьбіт
мужчына beat –
кабета love it?

## ЮРЫ

дом на юры
ля яру

дым над домам –
у доме Юры

дзесь хтось колісь,
а Юры ў нас

думкі праз вушы
выдзімае віхура

яблыні
адбіваюць
пладамі
час

## SCHERZO

Міля, міля...
Фаля, фаля...
Дом. І міс Ольля.

- Сольлямі, фарэля, рэля’до?
- Фарэля, міс Ольля.
- Фасоль, фамідорэ?
- Сі, фасоль.
- Досі соль?
- Досі. До’! До’-до’!!! Дорэ’м...
- І фаміля? Фарэ’? Сольрэ’мі?
- Мі фаміля – доля міфа.

Фаля, фаля...
Міля, міля...
Доля-доля...

## ХОКУ

жабка скок
з каменя ў ставок
*віра – майна*

## ПАРАДАК

яблыкі становяцца бачнымі –
чырвонае на зялёным,
як таго патрабуе
ідэалёгія сьвятлафораў

у пня вырасла слаістае вуха
на соснах – будучы бурштын
падбярэзавік пад бярэзінай –
сьвет пад кантролем

передаю табе, сынку, у падарунак
гэты трывалы парадак

## КРЫЖЫКІ ДЫ ЗЬНІЧКІ

крыжыкі ды зьнічкі ў вачох
каляровыя й узорыстыя

пах у садзе
салодка-лекавы

хто бліжэй да зорак,
таму бачна ясьней

я ж углядаюся ў глебу
шчыльную й усыпаную
кавалкамі расьлінаў

лаўлю тон ды рытм –
вось вусень танчыць
яшчарка, павучок

потым устаю ў замілаваньні
ды б’юся галавой аб сук ігрушы –

*крыжыкі ды зьнічкі ў вачох*
*салодкі пах ля ганку*

## MIRIAM, IM MEMORIAM

ня чуў твайго голасу гады паўтары
на сьвята званіў у Дзень Панны –

адказала нейкая дзеўчынка:
цябе няма, ня будзе й заўтра
мо’ праз паўгода ці год

хацеў засьведчыць пачуцьці…
марныя

## АГРЭСТ

надзіва крытычны этап –
унутры вясна,
навокал вайна

    трываю за ўдарам удар
    нясу страты

дазволіў не пагадзіцца –
атрымаў у пысу
яшчэ й яшчэ

    з усіх бакоў
    агрэст прэ

## ПАВЕСТКА

па-першае:
    вецер уверсе, вецер у вецьці
    ўсьпеньвае дрэвы
    сьвішча ў печкі піпку

па-другое:
    туман
        зь зямлі
            струменямі
                бруіцца

па-трэцяе:
    кастрычнік
    праступае скрозь верасень
    рабізной

## ПАН Я.

лістапад навёў парадак –
расчысьціў далягляд

    пан Яўгеніюш сфоткаў
    гарызантальную вясёлку

далёкае блізка
нябачнае бачна –
нідзе не схаваесься

чутно нячутнае:
*белай стужкай крыніца ў яры*
*побач новая прабіваецца –*
*булькоча глеем*
*пад люстэркам,*
*дзе дрэвы схіліліся з увагай –*
*назіраюць...*

    пан Яўгеніюш сфоткаў
    белую вясёлку

абмый рукі ў сьцюдзёнай вадзе –
адразу стане цёпла

## БЕЗ

ішоў з пагорка на пагорак –
цяжарная спадарожніца па-над
ласкава асьвятляла крок за крокам
то мякчэй
то мацней
ды ў лужыну ўсё ж такі трапіў –
праламалася пад дзіравым ботам

зоркі, як павучкі,
трымаюцца сьлінай
так сьветла,
    што нават ліхтары не запальваюцца,
    ці то згарэлі?..

на раніцу пратапілі хату – вясна:
махнаты матыль пачынае
танец уздоўж вакна
паўсонныя мошкі,
сенакосцы лезуць у пысу

катоў унізе няма –
відаць, пайшлі на работу
мой жа занятак –
піць з малаком гарбату,
і каб ніякага рафінаду!

**ТО ЁН**

дрэвы зьвіняць
на сонцы

не адчуваю сябе
хіба цьмяны адбітак

уздоўж ральлі –
вянкі раскіданыя

сяджу ля яміны
сяджу ля яміны

збуд спусьцілі
з гары долу
й забыліся,
што гэта ён

колькі гадоў
праяжджаў міма
думаў – клюб
старая крама

а гэта – касьцёл! –
стары, драўляны, з апсідай
і знутры нашмат большы,
чым звонку, як мае быць

ты проста стаіш,
а ён гоіць
выходзіш з імшы,
як п’яны

*P.S. На самым піку гары –
каталіцкія пахаваньні
між пазьнейшых
праваслаўных.*

**НАПОІ**

зь ежы ў доме
адзіная вада
з-пад крану
і тая за грошы

у шклянцы
зямлі разьмяшаць
і залпам выпіць
хочу!
...

у краме рэшту далі запалкамі –
набылі пакет журавінаў
у вадзе перасьпелкі аселі,
моцныя ўсплылі –
морс
...

раней пасьнем – раней устанем,
тады прысьніў шахматы
ў чалавечы рост,
хацеў у садзе расставіць,
што сёньня?
...

сябар рэкамэндуе
цыкорыю
перад сном

*   *   *   *   *

ад гарбаты
засынаю
ад піва, ад віна...
    выключная вада
    бадзёрыць
    ледзяная з раўчака

таксама добра піць каву
зь нятлустым малаком
з глінянага посуду
    несалоджаную
    як сьвятло ўначы
    аголенае

**ЦЫРУЛЬНІК**

трыкутнік лесу
сузор'і сьціртаў

калюгі пад шкелцам
нябёсаў цяжкая кладка

у палітоне
пад парасонам
пасярод поля
мякка

*тон-тон-паўтон*

цырульнік
дзе трэба падрэзаў
дзе трэба пафарбаваў
там коскі заплёў
тут выгаліў, выбеліў

*тон-тон-паўтон*

мароз бадзёрыць
не дае спаць ухаластую
журавінкі расчыняюцца
ў кіпені – лоп!

а ў полі...
не, гэта ня пудзіла –
то цырульнік

у палітоне
пад парасонам
з нажніцамі



***

*– ці буду я пасьля сьмерці?*
*– будзеш, але ня ты*

чэрвень – лістапад 2009

## МАРШОЎКА

– Netto, Brutto!
Caesar

абуджаныя
будаваць
будучыню
узбуджаныя
з будня
ў будзень

дзе за праўду
даражэй
правасьць
дзе брат
брату –
Брут
дзе зьявы
ўяўныя
безнадзейныя
дзеі...
засяроджана
засяваем
асяродзьдзе
разам
зараз
і тут!

## ХОРАША

радыё
радуе
народы
новым
журы
з журбой
абірае
лепшых
руды
рады
працягу
роду
жор
жораў
ад жорнаў
жар
джанджоха
ў храме Роха
хораша
хорам
на Хрост
сьпяваць

## ***

ківач матляўся марудна й цяжка
здавалася, нават спыняўся –
тады рабілася зімна

*пад люстраною скурай*
*крыніцы*
*марозьліва, нерухома*

жыву як вуж –
жыжа кусь!

пакідаю сабе радасьць,
прамоўца ды плакальнік

ад мноства таблетак – млосна
хачу сканаць цэлым

стаўлюся спакойна да наваколься,
у тым ліку й да грахоў

ад галавы разыходзяцца вілы
кіслароду тлустая карамэль

жыву як вуж
памру як леў

*нерухома*



## УМА

золкам расплюшчваюцца хатнія кветкі й вочы
пад малочна-памаранчавым ліхтаром
статак сьняжынак рухаецца сынхронна
з боку ў бок, грацыёзна

так і птушкі: зрываюцца з даху,
перасякаючы завулак,
угару, за поле зроку
ды зноў на той жа гмах...

у мяне ж дома
малое дзяўчо
дольку аранжыка
мачае ў гарбату

бо першы занадта халодны,
а другая занадта гарачая

## СУСТРЭЧА

*Вітай, Марыя!*
*са зьнічамі*
*браты й сёстры*
*ўсіх узростаў*
*крочаць колам*
*да касьцёла...*

над Гароднай узышло тры Сонцы
над Бабруйскам твар са сьлязой
над Браславам – карона

Ты радуеш
Ты даруеш

хутка ня хопіць слоў
яны не спатрэбяцца

душа знойдзе свой тон –
роўны й безь перапынку

Ты родзіш
Ты дорыш

сустрэну Цябе на сьцежцы
як жабрак, як сіротка...

на сьцежцы зь Бясядаў у Сярпішчына
на дарожцы са Сьліжына ў Саладзе’невічы

*Вітай, Марыя!*

## КАПРАМОНТ

рабочыя зламалі
ракавіну, дамафон і тэлеантэну –
капітальны рамонт падаўжаецца

- заходзь,
не па-эстэцку ў мяне тут:
пыл, смурод, бруд...
можа, маеш чаго?
тады вечар зладзіцца,
як калісьці

*P.S. Некаторыя прыстойныя суседзі*
*ў працэсе капрамонту сьпіліся.*

## ЗРАНЬНЯ

люблю, калі
высокія бэтонныя дамы
адлюстроўваюць
сьвітанак

плыву па сьнезе, па лёдзе
быццам босы, па праўдзе ж ня босы
сам пусты ад распусты
паўсонны...

вяртаюся ўвечары
такі ж яшчэ болей:
п’яны, недакладны й няпоўны
галодны й без апэтыту

і Сонца доўга не ўсплывае

**МАЎЧЫ ЗА РАЗУМНАГА...**

музыка – бяз рытму й гармоніі
кіно – безь сюжэту й гуку
літаратура – вершы

верыш – ведаеш
ня маеш – вольны
безь любові – грэшыш

* * * * *

каб быць разумным –
ня трэба кніжак
ні мастацкіх, ні навуковых

ня трэба школаў, гутарак, нэту
ня трэба багацьця й этыкету
пэўнае мясцовасьці й асяродку

можна папросту маўчаць,
і не рабіць анічога, нават ня есьці,
калі адчуеш такую магчымасьць

* * * * *

нам плацяць грошы не за працу,
а за наш страчаны час

таму й ляціць так імкліва,
таму не пасьпяваеш,
ня можаш заняцца ўлюбёным

зрэшты, калі выходныя
праводжу выключна
за ежай і мэдыя,
думаю: праца не вінаватая,
гэта псыхічны разлад

* * * * *

мы разам – гэта маразм
чым такая еднасьць,
лепей адасобленасьць

living рознае – не супрацьлеглае
разьвіцьцё – не лінейнае
калі мэта, то сакрамант

## FLUOR

ноч пазяхае туманам
цела цяплейшае за´ дзень
белыя прожылкі газаў
абмотваюць косткі вецьця

вузла прамяністага валік
на аблачынах-рабрынах
рытм паміж адбівае
ўздыхам і выдыхам

$O_2$ сябе сма´ліць / вылівае сябе $H_2O$
куды сьвячу, туды й гляджу
грахом разгорнуты ў сьвет
аб скуру тупіцца лязо – бздынь!..

дзе тулава kaputt, там выдыхае дух
залежыць наўзаем
што *правамоц*, што *леварух*
як стаць сьвятым?

## ЯК СТАЦЬ СЬВЯТЫМ?

да Эўфрасіньні на фрэгаце сінім
да Марціна на брыганціне
да Кірылы на белых крылах
да Гаўрылы аўтаспынам
да Язафата аэрастатам
да Баніфацыя на электрацыі
да Рафала на „рафіку”
да Казімера на „камазіку”
да Юр’я на фуры
да Антона пантонам
да Яна параплянам
да Апанаса на тарантасе
да Ганны ў ваганэтцы
да Астапа стопамі
да Ляксея ластамі
да Міколы на чэсным слове
ды з Божай ласкаю

## ЯК СТАЦЬ ФІЛЁЗАФАМ?

Сакрата скарацілі
Прокла праклялі
Арыстотэль пад арыштам
Дэмакрыт за кратамі
Апалёній у палоне
Анаксагор анэксаваны
Адраст – пэдэраст
Ксэнафонт пайшоў на фронт
Плятон у пляшцы ўтоп

## ЯК СТАЦЬ МЕСТАЧКОЎЦАМ?

па панядзелках у касьцёл
па аўторках у царкву
па серадох ва ўніяцкую
па чацьвяргох у стараверскую
па пятніцах у кірху
па суботах у мячэт
па нядзелях на капішча
а ў сынагогу штодзень

## ЗА ШКЛОМ

за жоўтым шклом
у барвовым швэдры
смокча цыгарэту шкілеціна
пускае струмень у фортку
рухі ледзь прыкметныя звонку

залозаў кісель, жар і твань
як пуста ў міжножжы!
даруй недасьведчанасьць
штомесяц маю новыя захапленьні:
то пяткі, то шыі, вушы, вусны
цяпер найбольш прагны да таліяў

а вочы ланцужком,
каралямі, пацеркамі
вочы як каштоўныя пароды,
як радары, засякаюць увагу
у рудых яны вогненныя...

мне даспадобы твой левы бок
ня ўзьняты на абцасы
хачу паставіць кропку
ўнутры твайго ромба –
уяўляю густыя кроплі
на кругляку жывата

звонку прыкметныя ледзь рухі
у фортку струмень пускае шкілеціна
цыгарэту смокча
ў швэдры барвовым
за шклом жоўтым

## КРЫТЫКА

*- Звыклая рэакцыя – маўчаньне /*
*нібы табу / ніякаватасьць*

захварэў на ўвагу? – вар'яцтва!
    рабі, што робіш
    спантаннае дабро incognito
    на ўзроўні інстынкту
абы адчувалася патрэба
бяз доказаў і адказаў звонку
    кінь ныць!
    не прасі, не чакай –
    аддавай…
цярпеньне й міласэрнасьць,
слушны парадак думак –
чаго яшчэ трэба?
    за тыя правіны,
    што зьдзейсьніў –
    ня самая горшая опцыя

*- Даруйце, але ў мяне / усё на Бога завязана /*
*тлумачу рэчы, дзеі, зьявы / зь Ім і празь Яго /*
*ніяк інакш*

## МАЛАДАРОСЛЫЯ

маладыя паводзяць сябе, як дарослыя
займаюцца дарослымі справамі
складана выказваюцца
    а дарослыя малодзяцца
    просяць не зьвяртаць увагі на зьнешнасьць
    гавораць лухту

дарослыя танчаць
маладыя енчаць

маладыя скардзяцца на слабое здароўе
недахоп часу, сілаў, нэрваў, грошай
памяці й магчымасьці апрацоўваць шквал
зьвестак
    а дарослыя на тое не замарочваюцца
    атрымоўваюць асалоду
    бухаюць, трахаюцца ды вандруюць па
курортах

дарослыя разьвіваюцца
маладыя разьвітваюцца

## СЬВЕТАЧЫ

тлустая Сэлена
ня можа пралезьці
скрозь нябёсы

пад сьвятлом
узьнікаюць пралескі

празорлівы Геліяс
засмоктваецца бы варанае яйка
ў пляшку з-пад малака

квітнеюць каштаны
ўздоўж

## ДЗЯДЫ

...а што, калі нашыя бацькі не памерлі,
насамрэч схаваліся ад нас
і жывуць сваім жыцьцём?

не пазнаюць нас на вуліцы,
але мы пазнаем

забыліся на нас,
а мы не...

## ДЫЯРЫЮШ ФРАНЦІШКАНЦА

***заўчора***

зла няма,
ёсьць нецярплівасьць

*     *     *     *     *

лепей ня мець нічога,
чым мець усё

*     *     *     *     *

ад гаманіны думак –
беганіна пятак

*     *     *     *     *

за такіх людзей трэба маліцца,
прытым блізка не падпускаць

*     *     *     *     *

не інтэлектуальнасьць, а праведнасьць
ня геній, а сьвяты

*     *     *     *     *

калі б’юць –
заўсёды ёсьць
за што

*     *     *     *     *

новае –
гэта чарговае
перад наступным

*     *     *     *     *

задаваленьні
каштуюць тут невымерна дарага,
асабліва калі ўлічыць
іх кароткатэрміновасьць
(у тым ліку свабода)

*     *     *     *     *

калі Бог паўсюль,
то дзе тут д’ябал?
ці ня тонкая абалонка
ўласнага „Я”,
і тая адносная?

* * * * *

другая палова
патрэбная таму,
хто не адчувае сябе
самадастатковым
і цэльным

***учора***

у вёсках Крывічы ды Парабкі –
адна агульная вуліца –
Савецкая
(зрэшты, на тую вуліцу
ўсе нашыя вёскі, мястэчкі ды месты
нанізаныя)

* * * * *

*браце-вецер,*
*паветра-сястра...*

брат з Крывічоў
папрасіў маліцца
за рамонт падмурка
параіў фільм пра Францыска
лепей той, што з Руркам



* * * * *

зараз столькі інфармацыі,
што даводзіцца абараняцца
хоць быццам і карысная,
ды розум ужо пухне,
лопнуць пагражае
ад такога перадастатку

* * * * *

навошта грук?
калі адчынена
адмяняе час рух
(бо гадзіньнік бяжыць
адносна нашага спыну)

* * * * *

навошта безадказнае каханьне?
калі маем няўмольную бацькоўскую апеку
радасьць Боскае спагады
    салодкі сок веры
    спаталяе трапяткую смагу

* * * * *

навошта сьвятло?
калі й так бачна
вядома, што зьменіцца
    хмара сыдзе – наступіць раніца
    й звон змусіць
адчуць супольнасьць

***сёньня***

падзеі-дзеі
дзе падзеліся
навіны, што віну спавівалі?

Пане Божа,
цела болей ня можа
заставацца зямным!

* * * * *

кажуць: „Трымайся"
яшчэ й яшчэ, зноў і зноў
з розных бакоў
    быццам ведаюць
    нешта такое,
    што на мяне чакае...

зьбянтэжана думаю,
як рыхтавацца
й да чаго?

* * * * *

пайшоў па ваду й
напаткаў ля крыніцы
Панну ў выглядзе гарлачыка
    прамыўшы вадою
    твар і вантробы,
    адчуў палёгку й яснасьць

(стома не ў адсутнасьці сілаў,
а ў немагчымасьці даць ім ход
    мець вэктар ня менш важна,
    чым моц на крок)

* * * * *

неба, глеба, расьліннасьць,
вада, камяні, сьвятло й вецер –
у гэтым больш logos,
чым у любым з мастацтваў,
бо першае ад Бога,
а другое ад homo (sapiens)

што мелася быць напісаным,
зьмешчана ў Кнізе Кнігаў...

*дабраслаўлёныя самотныя*
*дабраслаўлёныя маўклівыя*
*дабраслаўлёныя бясшлюбныя*
*дабраўслаўлёныя бясслаўныя*

*са Сьвятам Сьвятаў!*

***заўтра***

па-над Беларусяй
вульканічны попел з Ісьляндыі
і паўночны вецер са Скандынавіі

побач са мной
скрыпач з Галяндыі – У.
і бандэроль з Брытаніі – ад Ф.

* * * * *

на маім нелінейным шляху
сустрэлася канечнасьць:
якога з ego болей,
калі штохвілю мяняецца прапорцыЯ?

* * * * *

час, думкі, парк –
Мацей ты ці Марк
Лукаш ці то Ян
добрыя навіны
склаліся ў адзіную

* * * * *

дай, прабач, зрабі –
дзеясловы загаднага ладу,
ці пасуюць яны да малітвы?
можа, лепей:
люблю, веру, прымаю...

* * * * *

тыя ж людзі
ў той жа вопратцы
ў той жа час –
на загарках-наручніках
па нулях

* * * * *

зазірні сабе ў вочы,
бач – якія чорныя
зь зялёным донцам

*     *     *     *     *

таленты надоўга
не затрымліваюцца
ў гэнай кішэні

*     *     *     *     *

ад холаду ногі курчыць –
„батарэі патрабуюць агню”
хутаю мязянік у кулак

***пазаўтра***

праўда адна,
ды кожны разумее па-свойму

*     *     *     *     *

калі не баяцца сьмерці,
то жыць даволі ўтульна

*     *     *     *     *

вольныя дні
даражэй за рублі



*     *     *     *     *

грахі паступова праходзяць,
нібыта хвароба

*     *     *     *     *

міла, ды міма

*     *     *     *     *

набліжаемся да чагосьці велічнага
хутка лопне шкарлупка вечнасьці

сьнежань 2009 – красавік 2010

## ПАЭМА М

### тэорм

падлеткамі бавіліся ў мэтро / асабліва, калі
халады
боўталіся па крэскаванай рысе / туды-сюды
перабягалі з вагона ў вагон, з электрацыі ў
электрацыю
пасажыраў змушалі выходзіць на пэўным
пэроне праз „тэлепатыю”
ці папросту гулялі ў глядзелкі зь нязнанымі
/ махалі рукамі…

нам сьнілася нямала сноў
пра цягнікі з шыфраванымі нумарамі
пра службовую лазьню

і сярод нашых параў / мелася
застацца на канцавой у нýтрах,
каб зірнуць, што там дáлей –
як саставы мяняюць рэйкі і шпалы
ды накірунак руху

### эмотр

у палітоне / па мэтрапалітэне
катакомбах, злучэньнях, камунікацыях
па чатырохканцовай схеме
з выдранымі назвамі лякацыяў
па зерні граніту, скрозь вітражы й вітрыны
адлюстраваньні й камэры перасьледу
слухаю мантры пра асьцярожнасьць
нам пагражаюць забытымі рэчамі
зь ліхтарнага лябірынту цыклёпамі
побач экраны, праектары, маніторы
сьверб рэклямнае інфармацыі ды
саўковае анімацыі, танцы…
як жа тут будзеш уважлівым?

гукі ўразьлёт / б’юцца ў аскепкі аб борт
губляюць сэнс, трымаюць тон і настрой
рэха разносіць і множыць выцьцё / электрычных
цмокаў,
загнаных між полюсаў у кола
жабракі ды музыкі
з горнамі ў глытках
з баянамі-лёгкімі
пад таблічкамі –
поўны ігнор
саступаю сядзеньне / цяжарным, інвалідам
вочы сыплюцца, як пялёсткі / як купюры на
скразьняку
няма немясцовых / ды многа нямых,
што ў жэстах ліхія

у рэгулярны пік – карагоды пінгвінаў
кішэнныя зборнікі й рабаўнікі
крыкі, залётныя галубы
дзеці з балёнікамі ці сьцяжкамі
скляпеньні й муры мацуюць
косткі ды жылы / мамантаў і старажылаў
фамільныя склепы просяць новых
ахвяраў штогод –
самагубцы робяць адчайны крок,
бо „няма выхаду”

**мортэ**

падземныя нэфы мерыць нешпар
зьвязаныя завучаным абрадам
прытрымліваем дзьверы / ў знак супакою
ўкладаем няшпарка ахвяры
ў турнікеты мясцовай валютай / для колазвароту
аднак грэх б’е па сьцёгнах
сьціскае ўнутраныя кішэні
рэвізоры-анёлы ў гневе

*царква – цэх – цырк...*

чакаем на цягнік
між шляхоў, між рэек

між паўзамі ў рытме аркадаў
у цэнтры цемры – трохвочча зьніча
прыбыцьцё як прычасьце / з трубою вітальнай

машыністы-манахі ў тэпцях / перадаюць
эстафэту
краты́-астранаўты ў глебавым космасе
вантробамі мкнуцца да Сонца / вандроўнікі
спрынт-пілігрымы паводле свастычнае трасы
насустрач нясуцца камэты ды зоркі

унутры мэтро – тромбы
схаваныя лёхі з кляштара ў кляштар
ці наўцёкі з парлямэнту
праз вэнтыляцыю / каналізацыю / па кабэлях
у сховы з запасамі харчу

*хрыст – храм – крама...*

у рэклямах – абутыя ногі й танная ежа
анонсы ўрачыстых канцэртаў / іконы нязнаных
сьвятых
калі ўцелавіўся сямімільённы,
яно пачало разрастацца грыбніцай
пупавіну мапай зматала
прыватныя хаты ўгары / абрынула
*мэсія – мэса – месіва...*

зараз крочым калёнамі між калёнаў
шыхтамі ў шахты, у масіў масамі / паліраваны
ня вымеш паходні са століяў / цьмяна –
ужо ня счытваем выбітых лёзунгаў
выбітных ідалаў, коньнікаў масянжовых
зьвестак зьверху ў вэстыбюлях

мэтрапаліт, арцыдзяжурны
прыпынкавых пунктаў ружанец / перабірае
эскалятар варочае звадак / пускам і стопам
прыбіральшчыцы ўночы
наводзяць чысьцец у адхлані
„уваход забаронены”

**эротм**

хутчэй і глыбей / цераспалосіцай небясьпекі
у твань у бездань / ірвотнымі рвуся рыўкамі
прыступкамі ўгору / згары
стужкай крыві / на правы бок
праз стадолу пад зьвіслы каўчэг
да слупоў увагнутасьці / леваруч
на масток для сустрэч / у фае за мур

вецер гудзе гарлавінай
б’е па кляпанах мікравакзалаў
пускае сьліну й ваніты / нябачна
дзяўчаты імкліва мнуцца
бадзёрацць стамлёных службоўцаў
па калідорах лібіда / дае рэзананс адтуліна
дрыжыць тэатар, вібруюць пяткі

у тэрмітніку жабы й ракі
чэлесаногія на прычале
прыбывае транспарт,
　　нашпігаваны джынсой з валасамі
　　прамотвае перад тварам / гарэмы
　　праплываюць фарэлямі профілі
　　на выбар любыя фігурыны, тулавы
　　сядзельцы ўтаропіліся ў пупы вэртыкальнікаў
　　тыя труцца міжсобку набухлымі геніталіямі
дзяжурны міліцыянт,
вас ізноў выклікаюць

пустыя вагоны праносяцца з сорамам,
крыўдзячы часовых дабравольцаў андэрграўнду,
кароткатэрміновых жыхароў найніжэйшага
　　　　　　　　　　　　　　　　гораду
тыя сьпяшаюцца ўмоўчкі ды без усьмешак
штурхаюць адно аднаго / садзяцца нага да нагі,
　　абменьваючыся тэмпэратурай
　　справядліва разьмяркоўваючы ціск

усярэдніваючы рост ды ўзрост
аптымізуючы моц і мозг
думкі цякуць з галавы ў галаву
"не прыхінацца!"

пульсуе хада ў коўзкай цязе
за дзеўкай усьлед
уваходзіць старая
- давай застануся ў табе
пакуль не рассунецца брама?
"наступная станцыя..."

**трэмо**

*плюс – мінус – плюс...*

дзьверы зачыняцца неасьцярожна
простай лініяй злучацца кропкі –
пачатак з канцом / скон з зачынам /
зайграюць аб'ёмы, праёмы, вымоіны
пáлі штурхаюцца / лесьвіцы сьцелюцца
лучацца пліты плято перагонамі
лякуны ў падцёках ды лужынах
правілы ё,
ды мы ня ве'...
паперы нас
папераджалі, але...
ня пройдзеш з амбрэ

апоры, парэнчы ды агароджы
для тых касякоў, шэрагаў, статкаў
яно вымагае парадку
будуе схаваныя залі ды холы,
нішы, прыступкі й пасткі,
каб не кульнуцца зьнянацку,
каб птушка ня зьвіла гняздо

вышэй пераход
у павільён,
дзе
за мэрам мэр / за мэтрам мэтар /
за грандам гранд / за нобілем нобіль /
з мэтаю з сэнсам / скрозь болю боязь /
ды ласку лязгу / становісься раптам /
трупам на трапе / латкай у падлозе

*мінус – плюс – мінус...*

нельга быць пэўным,
што едзеш у тым накірунку
тутака маем пару бакоў
іншая мера, меней за нуль

сьвет безь сьвяціла
ні ўсходу ні захаду
у дзень навечна падземны
застыла часіна

вагон як пакой сьмеху й страху
суседзяў ацэньваем бокавым зрокам
у іх падглядаем газэты ды гаджэты –
"на наступнай выходзім?"
прашу заўважыць даўгія партрэты
з намі імчыць паралельна
скрозь сьцены тунэлю
празрысты салён, дзе нашыя здані...

ды як у табе пуста бывае, ціха ды чыста
заўжды, нават узімку цёпла
так, зямля гарантуе / надзейны прытулак
сваім грамадзянам

**мроэт**

*пілёту-аратаму сьніцца*
*як на станцыі Сталіна стаў*
*дзе душы для супрацоўнікаў*
*як мыльная пена цячэ між рэек*
*балерыны ў белых туніках*





*на плятформе ладзяць імпрэзу –*
*грае аркестра й хор філярмоніі*
*на іншай – басэйн*
*парады й дэманстрацыі*
*паўсюль гандлююць жывою рыбай*
*шашлыкі ў бліны абгортваюць*
*піва на розьліў з гарэлкай*
*кросы й ралі*
*клёны й клёўны*
*блюзьнеры ды блазны*
*паўстанцы й калябаранты*
*геі, мігранты*
*паводка з клязэтаў*
*яднае нацыю*
*урэшце пад раніцу*
*хтосьці сарваў стоп-кран –*
*прастору запоўніў духмяны*
*нібыта з прыступкаў на спуску туман*
*белы, але зь мільгаценьнем адценьняў,*
*няўлоўным бляскам*
*пара гусьцела, тлусьцела ды шырылася*
*ў капальні*
*да паловы на шостую*

**мотэр**

цягнікі грукочуць з-пад зямлі
ты высунула шчэлепы:
выдыхаеш чэравам
праз вэнткіёскі, дзьвярыма хістаючы,
пыл цэмэнту ды кафлі / колаў змазку
вільготная, як ніколі

*маці – маціца – матрыца*

сыходзячы ў сутарэньні,
граем з сабою ў хованкі / наўзахапкі
купляем хвілі й нерухомасьць у пакоі
спрошчаны накрыс жыцьця / летапіс
транспартуемся ў трансе па штольні
дарэчы, чаму ня сторч галавою?

улазім у кут, каб высьлізнуць вонкі
зь небыцьця ў нябыт, ад улады ў лад
(быццам бы)
у новую кропку на выбар
навародкамі рушым са склепаў
эвакуюемся зь іншасьвету
пасынкамі з канторы сьмерці

**ротэм**

дно нязгоднае зь верхам / паводле канону
такое адно, яно зносіць поліс / сугучна з законам
кішкай яднае праз рот / скажае час і прастору
нястрашны абвал і патоп / нясе, перамотвае
манатонна
матляе празрыстымі крылцамі / выхадаў ды
ўваходаў...

"поезд далей не ідзе,
калі ласка, пакіньце вагоны"

асноўны тэкст – 5 верасьня 2010

**АСТРАЛЯБІЯ**

- акіян ночы калыша
белую дольку цытрыны
дзе ж ты бадзяўся так доўга?
Поўня ўзышла апоўдні
ажно гарбата астыла

- у пушчы гушчы быў.
пакуль воблака набівала пільсьцю вакно
тонкую тканку сеціва сыціла сочывам
мёдам дзён зьнітоўвала талакно
    цені паволі падвойвалі рэчы
    аблытвалі вечара тулава
    Сонца паўзьніклае –
    клейкае ліпкае вока –
    казурак за схіл валакло
    вязьлі вязы ў з(м)року...

- а я паўдня круціў валасы,
палову разблытваў у quo
чан ночы парожні
да самых краёў
з донца зьясі лімон

## ДРОБ (НАРОДНЫ СКЛОН)

дзень збытны:
гоманам гімнаў
салютаў лютасьцю
цягай сьцягоў
мэдалёў цяжарам

гора мора
са шчасьця пашчы
любошчаў боршч
рэшта з рэшата –
пастка пустая

*     *     *     *     *

выбараў
вырабы
рабы ня мы

народ-спарод
хто есьць, той ёсьць
зямлі соль

будзе бунт
рыхтуй бінт,
пан трыбун!

нацыі цана –
                    Цанава
кроў пускае наноў

## ФІЛЯЗАФОВІЧ

як у агонь
гляджу на плынь ракі

на поўсьць жывёлы
ў пераборы ветру

ці на пакінутыя
гмахі ранкам

альбо ў вакно аўто...

## БЛЯКНОТ РАБКОРА

бадзёрасьць стылае вады дзярэ
гарбаты шклянку з ранку трэ'
да транспартнага стопу пру
прагнозы ня зьменяць плянаў мне

кабеты насустрач трасуцца за-
быўся, што ёсьць кабеты ра-
блю за грошы прыгонны вя-
ртаюся пешкам абмазга-
ваць, ці прынёс што карыснага дзень?
не – то лічы, змарнаваў

яшчэ б
пры гэткім ліку задумаў і спраў,
няўцям, за што брацца сьпярша –
абіраеш самае пільнае, ды
імпэту няма...

калі задам на зэдліку, то
кеміш: ня дзееш пэўнае, што
ёсьць надзвычайна важным, бо
да́лей будзе важчэй!

аднак
як знайсьці вагу
між "трэба", "хачу", "магу",
калі варагу-
юць бясьсільле й лень?

хіба не сьпяшацца
патроху рабіць
*вартаму быць!*

**ЛІЧБЫ НА СЭРЦЫ**

дзень месяц год

рост узрост вага
памеры вопраткі
код дамафона
нумары тэлефонаў
пароль ад кампа
картка банку
дзяржзнак аўто

дзень месяц год

***

дом не выпускае
а калі й так,
то не дае вярнуцца

даміна раўнуе –
сябе руйнуе
гне куты

сны прыйшлі босыя
самі па сабе каты́
свойскія пакуты

сны прынесьлі
пук сьніткі ў салату
частуйся

## RAUS

хер гаўляўтар
у фольксвагене
    па Гаўштрасэ
празь Ляйштадт
    да Тарпляц

міма шчасьлівае нацыі
апантаных мутэраў
працавітых фатэраў
дружных брудэраў

цугам – arbeit macht frei!
у цэх – jedem das seine!

бюргер на кухні
бутэрброд майструе
    у рот па горле
праз страўнік
    да тоўстае кішкі

...usrausrausrausraus...

## ЖЫВАПІС

Месяц высьпявае на галінцы елі
у ваконных рамах белі
месьціцца страху цемрадзь

зараз яркая толькі атрута
абодва сьвяцілы блізкія
колерам з пахам

    дахі дыхаюць перагарам
    хамы паселі па хатах,
    паяднаныя ежай і стрэхамі

    "рэха, харэ", – кажуць,
    а ў адказ: "хопіць піць,
    хопіць піць..."

## ТЫ/Я

тыя бяз такту
ў пошуках рытму
на вулках, у клюбах
з кіно, па алеях

- уступі, заключы,
увайдзі ў мой стан
крыжаванкі чакаюць на нас
і па працы – ТВ

тым трэба рытм
дакладны ды ладны
з цэнтру ў цэнтар
з цэнтру ў цэнтар

## ПРЫРОДАЗНАЎСТВА

калі стамлюся, ляжу ўсё ноч на сьпіне
калі ня надта, то на левым баку
    пасярэдзіне ложка – яміна
    прыціснуўшы ногі да грудзей,
    цалкам у ёй апынаюся

дыхаў, не адчуваючы смаку паветра,
пакуль не падумаў пра гэта
    дыхаць лягчэй у чорным
    *гаворачы – ня чуем*
    *спыніўшыся – паглыбляемся*

## ЖЫДАЎ ДОЖДЖ

гэтаму – гета
яму́ – я́му:
імя ў яміну
і няма Ямі́на

вера раве
бязь меры
дабро дробіць
сякера кесара

- мо' до'
так, кат?
- не магу інакш,
чым больш

## ЗГАРЫ ДОЛУ

гарышча ночы загараецца
цыгарэты ліхтароў плавяцца
ў цукар на днішчы чаркі

чырвоныя парэчкі сасьпелі найперш
залі вадой з рэчкі
свой кіслотны ласунак

Месяц асеў на карону асіны –
жоўты на сінім –
пад ім праляцеў сычык

грому бомы
за домам за далягладам
насустрач па сьцежцы вожык

## СТАТЫКА

стаю
стаіць каса
стаіць трава ў расе

дом
стаіць лес
і мой чэлес

слупы
стаіць неба
й аблокі ў ім стоячы



## ЖАЛЮЗІ

папараць расьце ўпоперак лязу
сьмерць шчыруе касой лёсу
жалеза бяз жалю рушыць залежнасьці
схінуліся рэзка жалюзі лесу

## ХТО?

інтэлігентны, далікатны, занудлівы, прагны
да размоваў, тэлефануеш два разы на тыдзень,
аднойчы на тыдзень заходзіш "у госьці" на'т
без запрашэньня / выпрасаваны, ахайны,
густоўна апрануты, хаваесься ад скразьнякоў,
выключаеш лішняе сьвятло, ня любіш
адчыненыя форткі й дзьверы / прыносіш
паслухаць дыскаў стосамі, а што я прапаную
не бярэш, любіш адчуваць свой уплыў, мякка
навязваць погляды / акуратна пастрыжаны,
паголены, працуеш выкладчыкам, носіш
з сабой сурвэткі й парасон / чытаў трох
лацінаамэрыканцаў, зьбіраеш арт-хаўз,
слухаеш акадэмічны авангард, ня п'еш,
ня курыш, прозьвішча сканчаецца на -аў,
прапагандуеш панславянства, "усе казлы,
я малойца" – агітуеш за скепсіс / маеш
выразныя дэфэкты маўленьня, калі-некалі
заікаесься, мыеш рукі перад ядой, дорыш
сваю старую вопратку / карацей, тыповы...

## ЭПІЗОДЫ

твой дом – зьлева ад воўчае зоркі

натапілі печ:
адчуваю, як растуць вушы...

у коткі ў носе
затарахцеў маторчык

**БІЛІНДРАСЫ**

ні ікнуць, ні пікнуць –
адразу губляеш
воблік дужага

не прамовіць
чагосьці іншага,
акром бурбалачнага

у гэнай кумпаніі
весела, неспакойна, эмацыйна, гульліва,
грахоўна, спакусьліва ды без панталыку

**Д/РЭВАЛЮЦЫЯ**

дуб улетку і дуб узімку –
адрозныя арбары:
*дубалет* і *дубазім звычайныя*

увогуле
розныя дрэвы штодзень:
ад дуба – водгульле невульгарнае

а звонку
яблыня звонкая –
дзынь!

## ТЛО

працяглыя ціхія дні…
зара асыпае бурштынам **бяр-**

неба зьзяе празрыстасьцю… **-озы**
як адно суцэльнае Сонца
згасаць ня хо'…

нават птах
                не кране
**воб-** не трывожыць
і вецер ня рвецца **-лака**

ў роўнае **сьвя-**
шэра-блакітнае **-тло**

## URBI

*з квадрата ў трыкутнік да кола*

вярнуўся ў горад:
у пад’езьдзе пахне згнілаю скiвiцай
над Motovelo паўсфэра неба
з бляскам мэталю
ручнік адпаведна кіслы

хочацца зьесьці
цэлае цела лета
лыжкай бы пудынг
але ж

тут усякі разьлічвае на
зручнае зьняцьце напругі

што я рабіў з моманту X цягам наступных
гадзін?
хто той імярэк, што пакінуў свой нумар?

вадаправод вымывае цукар
ужо вось тырчаць рабрыны
прамежнасьць спусьцелая
пэўна, апошнімі стануцца вочы

*ex quadrato in triangulum ad circulum*

травень – жнівень 2010

## РАЧЫНЫЯ СЬПЕВЫ

ДАТЫ

- ой, ай! я – ё!
- а мяне няма

БРАК

мала пана напалам

ХІБА

рак Ікар

ВЫБАРЫ

шо хош?
хопіць ці пох?..





## ПАДАНКІ

сяджу
тварам у сад
смакую плады
даю сабе рады

жую
ротам-маторам
рады дару роду
каштую паданкі

чую
паданьні птушак
казаньні травы
і не трымаю розум

**ЯЗЫК**

ускалмачаны туман
між гор
зьмешваецца з аблокамі
Лагожаск недзе за паваротам

сьпіральны дым
варочаецца між яблыкаў,
пакідаючы вільгаць
на пунсовых шчоках

*сьвятло тлее*
*на мокрым ценю*
*Сонца зьлізаў*
*каровін язык*
*навальніцы*

**ЗРЭЗ**

урад адказвае ўдарам на параду
у рэзыдэнцыі – рэзыдэнт,
што забыўся на словаў кошт
і цяпер уражаны

**БЯЗ РУХУ**

калі прырода
ня ў руху –

ціха суха
няма паху

была эра пуху –
будзе пара павукатых

не заўважаеш хаду дня,
меры адлегласьцяў

згубіўся гадзіньнік
маўчыць мабільнік

ня так, каб холадна,
бы й ня цёпла ў нас

жыцьцё як падарунак
без пацалунку ў адказ

*P.S. "Прыкладзі гэты крыжык да шчакі,*
*на ім – мой пацалунак".*



**ЖОЎ**

зь бярэзіны сьцякаюць
мядовыя брызкі

зямля пазяхае
карэньнем

перажоўвае каменьнем
дождж

## САЦЫЯМАНІЯ

вар’ят ня лічыць сябе вар’ятам
сьвяты ня лічыць сябе сьвятым

проста людзі лічаць сьвятых вар’ятамі,
а вар’ятаў узводзяць у ранг сьвятых

## МАЗАІКА

дзевяты месяц
спарадзіў плады й караняплоды

набіваем імі
мяшкі ды багажнікі

перабіраем у тазох і ваннах
аддзяляем гнільлё ад добрага

*замест роўнасьці*
*абіраю рознасьць*

*замест агульнага –*
*асобнае*

*між адзінотай і згуртаваньнем –*
*першае*

*між разумнасьцю й прастатой –*
*апошняе*

*машына імкнецца да хаосу,*
*сэрца – да парадку*

наваpодкі верасьня
складаюць
яблычна-бульбяную мазаіку

## НАПАЎЗЕНЬ

павукі
па вушох

так і
восень
на дрэвы
зьнізу

і я
праз пыл
па дарозе
ўгару

з галавой
павукоў
(пэўна)

## ШЛЯХ

адна птушка / самотны конік /
у прыбраным восеньню лесе
арыентавацца лепей
відавочна чуваць
усёчутна відаць:

праваруч крыніца спадае з прыступкі
на тым беразе – вогненная клёну пясьць
побач сьцежка ўздоўж вады
наперадзе нагадвае праспэкт –
ціхі шлях / для апошняга шляхціца

дуб шпурляецца жалудамі
ў навакольным маўчаньні
скрозь боязь
вымавіць слоўца
чухаю валуну
махнатую патыліцу

# ***

...бегае
котанька
маленькая
бегае
бегае
котанька
маленькая
котанька
бегае
маленькая
котанька
бегае
бегае
бегае
маленькая
котанька
бегае...

*     *     *     *     *

**о-о-о-о-о-**
**о-о-о-о-о-**
**о-о-о-о-о**
**як цёмна**



# XEROX

копія

я копія

і я копія

пі я копія

опія копія

копія копіі

я копія копіі...

**ВОДБЛІСКІ**

калі тое, што мы бачым –
гэта адбіткі сьвятла
значыць, і мы – промні
водбліскі агню
сонечныя зайчыкі

**ХМЛН**

...яно ўжо было над лесам,
калі раптам паглынулася

вечар муціў вочы
вечара чорная шыба
                    дымная
трубы пісалі араматным
                    атрамантам
                    вершы

вецер марна стрэсваў
зоры з галінак чарэшні

***

дыміцца глей
малюе рухам
        сьвятло ліецца ў ваду
        тая ўпіраецца ў промні…

попельны анёл прыйшоў,
каб зрабіць мяне попелам

*малако кісьне*
*з набліжэньнем*
*блакітнае раніцы*
*ноч адыходзіць*
*на задні плян*
*у тхлань*

котка на сонцы
стала пляскатай
        поўсьць быццам дым
        зрэначкі сьціслыя

цела плавіцца й падаўжаецца
разам з колам гадзінаў



**ТЫДЗЕНЬ**

штодзень як тыдзень:
аўторкам серады ёсьць панядзелак /
субоце пятніцу чацьвер /
нядзеля – Бога дзеля

***

маё цела ляжала на канапе,
а я пераблытаў яго з чужым

за вокнамі таполі шамацелі
невядома чым

і Радзіма
        сустракала
                пілігрыма

## ВАРШ/ТАТЫ

### proszę siadać – będziemy jadać

гусьцялю ці жыдзялю? / музычны суп (гарохавы) / лаўровы ліст – к письму / сарока-белабока кашку варыла... / да, нет, да, нет – получился винегрет / на нет и суда нет / тебе привет... / дзялі па--брацку – сабе менш / жуй-жуй, глытай / відэлец упаў – госьць сьпяшаецца, як лыжка – то госьця / супер-пупер / як ня хочаш есьці – мала працаваў / ясі, ясі, будзеш як гарэх-кракатук / дзьве дзірачкі (вецер) пад носам ё? (у барадзе дзірачка?) / язык праглынуў? / ня ў тое горла пайшло? / плакса, вакса, гуталин, на носу горячий блин / добрага чалавека мусібыць шмат / гэта ня тлушч, гэта мышцы / между первой и второй промежуток небольшой / энікі-бэнікі – клёц! / можна патануць нават у лыжцы / вырастет из сына свин... / засушенный Геракл / гэта ж самае смачнае – пузырыкі на гарбаце (плёнка на малацэ, цыбуля ў мясе) / чаю-чаю-чаю-чаю нака-ка-ка-ка-ка-ка-ка--чаю / пряник мятный, ароматный, удивительно приятный / Віця, Віця, Віцяля зьеў карову, і цяля, і дванаццаць парасят, толькі хвосьцікі тырчаць (а у волка попа колка) / Маша шла, шла, шла, пирожок нашла, села, поела и опять пошла / после сладкого обеда по закону Архимеда полагается поспать / мый посуд з абодвух бакоў / тры дні – госьць / самае цяжкае – чакаць і даганяць

### у меня зазвонил телефон

куку́-муку́ / пытаньне на засыпку / куда? – в желуда (куда глаза глядят) / куд-куда! куд-куда! вы откуда и куда?! / откуда? – от верблюда / як? – малпа й тая здагадаецца / калі? – як толькі, дык адразу / а потом? – суп с котом / с добрым утром и хорошим днём / что делать? – загаля попай бегаць / язык и до Киева доведёт / почему? – потому что, потому, что кончается на "у" / не магу! – а ты празь "не магу" / не хочу! – получишь калачу / за спрос не бьют в нос / за нечаянно бьют отчаянно / сёньня, учора, заўтра, пазаўчора, пасьлязаўтра – да поўнага тыдня два дні не стае / где? – у тебя на бороде (где положил, там и лежит) / где штаны? – может, где-то забыл? / что же делать? как нам быть? / что упало, то пропало / быў і сплыў / ищи-свищи / Бог дал – Бог взял / камусьці было патрэбней / это самое / ма! (няма) / ах ты, Маша, Маша-растеряша / кто ищет, тот всегда найдёт / разуй глаза / ясно-понятно? / што? – праверка слыху (вушы на што? что, что – ничего) / первое слово дороже второго / маўчаньне – знак згоды / спорнём?

**уходит рыбак в свой опасный путь**

вставай, поднимайся, рабочий народ! / Вас зовут / ты один не умывался и грязнулею остался / Маша, подымайся, Маша, одевайся! / вставай, вставай, штанишки надевай / не "нет", а "дат" / адна нага тут, другая там / руки в брюки и пошёл / язык и до Киева доведёт / пойдут клочки по закоулочкам / паехалі, паехалі за грыбамі, за гарэхамі / мороз, надевают ребята коньки / валасы на левы бок зачэсваў толькі Гітлер / зашпільваюць верхні гузік на кашулі (носяць колца на сярэднім пальцы) толькі дэбілы / скорей, скорей, не задерживай добрых и честных людей / кто стучится в дверь ко мне?..

**НОТКІ МАТКІ:** да чорнага ды белага ўсё пасуе / чарнаскурым найлепей пасуе касмэтыка / сьпявае, а голасу ня мае / грамыхайла / без мэдыятара натуральней / няўжо табе так важна, што падумаюць людзі? / ни фига себе пельмешка! / осторожно – коровья лепёшка! / не фантан / мой студэнт (мая студэнтка) / долгоиграющая конфета / кветкі разводзяць добрыя кабеты / прысядзем на дарожку

**wlazł kotek na płotek i mruga**

"так", – сказал бедняк / куплю я пук саломы / вот пуля просвистела и ага / тише, мыши, кот на крыше / что молчишь, как Кибальчиш? / пуста-пуста, вырасла капуста / зернедзяўбаючы грак / поспешишь – людей насмешишь / Ванда-банда, бясштонная каманда / денег много не бывает / даюць – бяры / доранае ня дораць (дарят только нечет) / ай-яй-яй-яй-яй, кампанья! / валасы не скубі / з дурной галавой нагам неспакой / если, если да кабы, то во рту б росли грибы / бах! бах! бах! бах! – получился Карабах / разошёлся не на шутку / жук упал и встать не может / лежачего не бьют / не показывай пальцем / не целься в людей / не праходзь праз крайнія дзьверы / любишь кататься – люби и саночки возить / ня лезь паперад бацькі ў пекла / былі агонь і дым-м-м-м... / силач-бамбула купил четыре стула и пятую кровать / теперь-то твоя душенька довольна? / хрэн яго ведае / дурни строятся по росту / брамнік-бублік / буби (пики, черви, крести) козыри у нас, черви (буби, крести, пики) были в прошлый раз / шахін-шах / ура! ура! победа комара / мирись, мирись и больше не дерись / мы едем, едем, едем в далёкие края / что за станция такая?.. / хорошо в краю родном – пахнет сеном и говном / далеко, далеко на лугу пасутся ко...

**капитан, капитан, улыбнитесь, ведь улыбка...**

три, три, три, три – что получишь? дырку! / обтирайся, если хочешь быть здоров (будь здоров, как Комаров!) / терпение и труд всё перетрут / танцуйте – вам письмо! / што трэба сказаць?.. дзякуй (зь лёгкай парай, смачна есьці, дабранач) / найлепшы адпачынак – зьмена занятку / рукі-крукі / ня грэбуй паціснуць брудную руку таму, хто за працай / сікась-накась / не сьвішчы ў хаце – грошай ня будзе / жив-здоров / здоро́во живёшь! / Бог в помощь! / ещё немного, ещё чуть-чуть / сделал дело – гуляй смело / ой! – что с тобой? что с тобой? что с твоею головой? / самоедством занимаешься? / ты яшчэ гліна, зь цябе што заўгодна зьляпіць можна / длинношеее / баран! / тэлевізар трэба глядзець на адлегласьці выцягнутае рукі, каб кулак закрываў экран

**крутится, вертится шар голубой**

жанчына – найлепшы сябар / попа к попе – дружба врозь / вусны гарачыя – значыць, кахае / дзяўчаты таксама гэтага хочуць / хто каго любіць, той таго й чубіць / и так плохо, и так нехорошо / спокойно, Маша, я Дубровский / лучше поздно, чем никогда / кто не успел, тот опоздал / мужчины ждут 15 минут / мужчыны ў памяшканьні здымаюць шапкі / симпампуша / самые красивые натурщицы – из ИнЯза / самыя прыгожыя грудзі – круглыя / у прыгажуні чырвонага, чорнага й белага па тры / чито-дрито, чито-маргарито

**СУТРА БРАТА:** вада – гэта цень / вада – гэта душа

**co za dużo, to nie zdrowo**

каждый охотник желает знать, где сидит фазан / мастацтва належыць народу / четыре чёрненьких чумазеньких чертёнка... / беларускі інтэлігент, але з польскай крывёю / я за інтэлігенцыю! / твар не сымэтрычны / сьнег ня белы (белага не бывае) / хіба ж лісьцё мёртвае? / ну, з Богам! / у злых тонкія вусны / у сквапных дробны почырк / мат может быть, если он оправдан / бойся рудых ды лысых / добры чалавек у палітыку ня пойдзе / мастак не малюе, ён піша (сябе) / зьбіў з панталыку! / карабель не плыве, а йдзе / мастак лінейкай не карыстаецца (не варочае аркуш) / што за мастак без барады? / жоўтым фарбуюць толькі вар’ятні / Пушкін ніколі ня быў за мяжой

/ дзяцей называюць пасьля нараджэньня / лепшы назоў – з аднаго слова / о! / усё геніяльнае проста / харошая мысьля прыходзіць апасьля / шик! блеск! красота!

**ребята, найдите такого Фому**

ёлкі-палкі, лес густы / ну? – гну / "да будет свет!", – сказал монтёр и зажёг спичку / гляджу ў кнігу – бачу хвігу / лепей чытаць з канца / Бог унутры нас і вакол нас / нават атэісты ў нешта вераць / усё роўна ўсе хрысьціяне / не рабі іншаму таго, чаго сабе не пажадаеш / любі людзей! / ты павінен стаць лепшым за мяне / калі б ня яблык разладу, магчыма, мы б лcraталі, як птушкі / счастье – только миг, печаль вечна / не пускай дрэнныя думкі ў космас / валасы – гэта каналы сувязі / вучоныя могуць зрабіццъ у воласе пакойчык / Сусьвет бясконцы ды пастаянна пашыраецца / ці можаш уявіць сабе цьвёрдае сьвятло (сьвятло, якое звужаецца на адлегласьці)? / чалавек на семдзесят адсоткаў складаецца з вады / нават у камені ёсьць кропля / у любога дома маецца кропка, ад удару ў якую ён разбурыцца / добро и зло – в чём истина двух слов? / калі на лужынах бурбалкі, дождж хутка скончыцца

**стомленыя, але задаволеныя, яны вярталіся дамоў**



верасень – сьнежань 2010

## ПАЗЫЧ МНЕ ГРОШЫК, БРАЦЕ

### А

*наконадні зьяўляліся ўступныя радкі,*
*ад якіх лёгка было адштурхнуцца,*
*каб занырнуць у маўленчы басэйн*

*цяпер заключныя часьцей:*
*"з тваім малаком на вуснах"*
*ці "кот прадзіраецца скрозь цэляфан"...*

па-за па-над наперад і з-пад
плястмаса, мазаная маслам
кот прадзіраецца скрозь цэляфан

*  *  *  *  *

засынаю сынам
*the son of the sun*
сьню сон
*the song of the singer*
песьню Зынгера / строчыш па фіранцы /
штрыхпункцірам
*Golden Mayer & Warner Brothers*
за шклом нікога, акром / воронаў ды крумкачоў
засынаю з тваім малаком / на вуснах

### Б

*сьню, як / у чэраве вечара / чоловік вячэрае*
*спраўляе kolacy / ціхай supper*
*мацу моцна мацае / шчупака за шчаку*
*шчупае*
*веернай вераю / канвэер кантэйнэраў*
*цягнецца...*
*як ракі мадэрныя / рэжуць caelum*
*як раб рабы рые роў рылам / ды ные:*

ня мне. ня мне. ізноў ня мне.
мне не? дзе мне? мана міне?
бязь зьмен. бязь зьмен. бязь зьмен.

*  *  *  *  *

гэта малая краіна
для дробных людзей:
тут нізкія сталы й столі
вузкія праёмы й рукавы
сьмешныя заробкі
прыземленыя думкі
скупыя зычаньні

абмежаваныя магчымасьці
сьціплыя порцыі
сьціслыя пераказы
плыткія вадасховішчы
закароткія ночы й дні...



## 24/7

НОЧ прагне запаўненьня кожнай літарай

носіць,
разьнімае ногі –
набывае дзень

ДЗЕНЬ зьвініць штыхамі знакаў

пытаецца,
дзе яна

*     *     *     *     *

не пераспаўшы з Н, трапляеш у Д паднаготную
там злучаеш хвілі цяглiцамі,
разьмяркоўваеш у прасторы кубы
заліваеш сабою вёдры

ён утульны да цеснаты
мозаг, вока, пячонка
ў асобных вузах
чэрапам лічыш прыступкі

ШТОДЗЁННАЧ

**AUKA**

*чую, што ня бачыў*
*бачу, што ня чуў*
*ведаю, што не казаў*
*кажу, што ня ведаў*
*кранаю, што не кранаў,*
*адным і кожным рухам*

іду туды, дзе ня быў ніколі
у дом, дзе я нарадзіўся

паўзы кажуць болей за словы
ноту не паўтарыць

прадмет не адзін і той жа
пакой іншы штохвілю...

успаміны ўзнаўляюцца
з чарговым прасынам:
пах, смак і фарбы сьвятла,
тэмбры гукаў наноў

а здолей ня спаць –
пакрыеш быцьцё
вадырамі ды цьвільлю
"пазначаю цябе крыжам"

перашкаджаюць жыць?
*уяві, што няма вакол болей*
*настаўнікаў, міліцыянтаў, сваякоў,*
*улюбёных пісьменьнікаў,*
*філёзафаў, сьвятых –*
кім ёсьць ты ў гэтым выпадку?
ці пазнаеш сябе ў люстэрку?

за ноччу надыходзіць вечны дзень,
калені ў сутаргах чакаюць на аплатку

*     *     *     *     *

так прыкра, што ня крыкнуць –
душыць гнеў

п’яны сусед, даўнітка
віншуюць са Зьмёртвыхпаўстаньнем...

аўтобус цягне сылюэт
да канечнай, руху падданы...

зранку яна ўстала першай,
пад вечар глядзелі БТ

## ZOO

эму ара сыч чыж моа
тур нар вол мул гну
леў ліс рак вуж боа
пёс кот мыш тля жук
кіт сом ёрш язь хек
вый роў рык зык енк

## МОНАБОЖНЫ

зьеў слоік гуркоў
склаў стос лістоў
скінуў на дыск кіно
выпіў шклянку пуэру
сьвятло прасявае chronus
ад словаў баліць галаў
тоны хвіляў на мэтар

настаў мяне на розум, інтра-горад!
зло прагне адказу любові памерам у жыцьцё
не даруй ды ўшчунь мяне, экстра-сяло!

лета бліжэй, чым здаецца
на тым тыдні сустрэцца –
гэта як калісь праз год
суворы рэжым скончыцца сьмерцю
ягонай ці нашай, ніяк інача
досыць жыць, бо быць до'
сэрца лопне нібы пузырок

## ***

тупат натоўпу
суцішыў сьнег

струмені фігураў
па белым пуху

сьнег суцэльны
паўмесяца сокам

пахне рыбай,
што зьнесла кока

## ПАПАР

- твае валасы разьдзімаюць вецер,
клявішы граюць пальцамі...
ці зьмесьціш? палюбіш мяне сабой?

- не. хачу быць пад дубам
у папары
з цалкам пустой галавой

## ЗЭНІТ

*зямля асела –*
*агаліла*
*мацоўку дрэў*

з табой магу быць адзін
ня спаў і не хацеў
правяраю ноч
на трываласьць
ценем ці промнем
да донца,
да золкага золку
насоўваю Сонца
на сэмт

*дрэвы*
*ў шматрукай*
*тузе*

## ІНДЫВІД

людзі ў форме прадалі свой зьмест
і гвалтам змушаюць штацкіх

шэрагі строяў
шоргат новых
шкарпэтак і гальштукаў...

"старлею" лягчэй падмануць, бо ён "дзед"
"дух", скажы мане "не"

## СОН

Увесь горад нібы на ваенным становішчы, але мінакі кажуць, што гэта ня так: аб'явілі выходныя папярэдне на тыдзень. У цэнтры няма аўтамабіляў, шмат людзей, мала хто хоча сядзець дома, шмат міліцыянтаў у цывільным – прызнаюцца, што "не жадаюць разам з маскалямі ваяваць"...

Я вярнуўся сюды ў аўторак. І ня ведаю, што здарылася ў панядзелак.
Тым болей, што будзе ў сераду.

09-10.04.2011

## НА МАРМУРЫ

ці то лужына вады
ці то лужына крыві
ці то цень
ці то цень чалавека
ці то...

пляцы блішчаць патыліцамі
завадатар выступае абвінаваўцам
хто ляжа спаць – наўрад ці ўстане

**ПАЧАСУН**

**00:00**

сяджу ля страўні з траўня
адзін, два дні...

абнадзейвае надпіс:
"буду праз 20 хвілін"

**03:14**

- гарбаты ці гаркавы?
- какавы й какакрата за краты

    аўторакаю
    серадую
    нядзелюю
зялёнай ды чорнай
з малаком ды цукрам
з цынамонам
цытронам, рыцынай...
чакаю на чакаляду

**04:33**

гад гадуе гадаў з году ў год

гадзіньнік гадзіць цыфэрблятам
падціраецца,
    сьцірае сябе стрэлкамі

гаўбец насупраць:
гадаванец паліць праз гадзіну
зьлетку ўзімку

перад сном
змываю з твару павуціньне
друкаваных знакаў

зубы шкодзяць сківіцам
паганяць мову языком
сьвет у сеціве авоські

**07:40**

блытаю літары
слухаючы
гаворачы
пішучы

дамалюй мяне –
лік павяліч
рук, ног, вачэй

усяго каб паболела

запозна заўважыў,
якая кашлатая сьпіна...

**17:30**

расьліны ня менш жывыя
і жанчыны ўсе лучныя вуснамі
чым яны лепшыя за цябе, любая?
ліст скрозь шкло праляцеў ценем
то бясконцы стрып крамянага шлюбу





**AD MORA DA**

**I**

u maroźlivym niebie –
zoraū krapiva
mora, nalitaje miž hrudziej,
smokča bierah

**II**

u mory ciaplej, čym zvonku
tolki viecier kołki
dźmie ū dziry
bje ab kamni lusterki

pad salonaj baradoj bieraha
hreju nohi ū piasku dy halcy
źbiraju malunki z akruhłych pazłaū

pryboj siorbaje
dychaje rybaj
raspłastaūšy šyroki jazyk

**III**

nie mahu zrazumieć, što sa mnoj
i što treba –

pračnuūsia, skupanuūsia
i pytańni syšli biez adkazu

što adčuvaješ svaim – tvajo
što napružvaje – čužoje

što jość – toje treba
što budzie – na toje niama spadzievu

vačam svaim vieru

**IV**

pačakaū
pakul moj spadarožnik vyhavarycca
dy znoū uziaū daviednik:
pad brucham miadźviedzia – Hurzuf,
pad kazyrkom vobłaka, abapiortaha na horny
krater – Jałta...

**V**

na pšaničnym piasku tvaich vałasoū
lažyć błakitnaje mora
z čyrvonymi vuhalkami
na pavierchni

puściū strumień zorak
u tvaju biezdań,
nie raźnimajučy
palcaū dy vusnaū

ty źbiraješ moj pot, jak nektar
ja hłytaju sałodki alej –
chočam ucisnucca
ciełam u cieła

my harym biełym vohniščam,
pławiačy noč
abpalvajem kipniem
kamieńnie

Biełaja Panna,
kvietka,
achini svaim pacham
uchvali chvalami
dy suciš cišaj
daj uśviadomić
tvajoj źjavy
javu

**VI**

hołyja na hary
hałosiać zyčnymi
recha charastva
skača
        pampujecca
matyka ū syraziom
miž barany noh
araty arašaje iłbom łob
uražany žaram
da ūradžaju hatovy –

my majem
myjem molim
ružžom ružu
polem

**VII**

vaziornyja Poūni
                        pad viejek huščaram
volcha pje vobłaka
kotka vartuje vobłu ū rondali
dno zaprudy
                        ūsiejanaje smaūžami
jak vada stužkaj razvaročvajecca ū šklancy
jak pył za mašynaj
jak rakavinka

smaūžy ableplivajuć posud
čysty jak dałoń afrykanca
ź filižanki lijucca chvili

kab nie zasnuć, vychodžu z domu:
jarki adbitak paparaci na hlaku poūnačy
duby kirujuć niabačnymi lalkami

**VIII**

pahoniśsia – uciače
nie pahoniśsia – samo pryjdzie

**IX**

chaču, jak nikoli, da Voli

jeści vinahrad z haračych ruk
spać u jaje pad pachaj
inakš niajomka
dzie žonka – tam i Radzima:

…ty lažyš biełaja j daŭhaja
ŭ piasku, pieramiešanym z šyškami
čuju mora ŭ tvaim žyvacie
nosam ryju tvaje dziuny
jahady ssu na kupinach
šukaju vadu pa pachu
pa radzimkach

kasa zhrabaje ŭrod
smały dy soli
ryby dy miodu

biełaje čyrvanieje
błakitnaje raskryvaje donca
Maładzik nakołvaje Sonca

**X**

praź niekalki hadzinaŭ
łožak stanie prydatnym
šum nieprykmietnym
sny kiravanymi:

*niamymi mimami*
*minajem mili*
*mima mamy*

*imam na minarecie*
*łokča pejzaž*
*ź pijały*

**XI**

ranku koruń
dnia dno
nočy čovien

Sonca reža niebaschiłu šoŭ –
źvierymsia z zornymi mapami
z adbitkami palcaŭ u apalenaj hlinie
Paŭmiesiac viančaje dalinu

miačet
pa-nad
dymam

**XII**

ty – samaje nievierahodnaje,
što zdaryłasia ŭ maim žyćci

paru dzion bieź ciabie pa-za domam –
i ŭžo chvalujusia:

ci nia son heta byū?
ci nia mroja?

**XIII**

kožny vałun maje voka
i z voka ślazu

**XIV**

Poūnia kupaje
zory ū mory

recha ruchava
chavajecca

*horad na horach*
*haryć haram*
*na rahoch vorah*
*harocham, harecham*
*u morak*

**XV**

cudadzień:

na sušy – kastryčnik
u mory – žnivień
u chacie – červień
u dušy – krasavik

ustaū – adrazu na mora – padudzieū
siarod kamianioū – abmyūsia – źjeū ciopłaje kašy –
zaloh u numary – papisáū dy papísaū –
iznoū u mory – kaša z sałataj –
jašče trochi ū łožku – uviečary vystup –
son – i daroha ū dabu daūžynioj

**XVI**

čytaju Bibliju pad Braxton'a
z Krymu ū Vilniu

śviet stvarajecca
Biblija pišacca:

*bajacca – značyć nia być hatovym*
*lubi j ničoha nia bojsia*
*"lubi j rabi, što chočaš"*
*pieradusim lubi*

**XVII**

my vyśliznuli z paūvyspy,
jak žaūtok sa škarłupy,
jak z butelki ryłca

kropla tušy raspuskaje karenišča
pa-nad stepam

**XVIII**

horła poūnaje moram
mora jdzie nosam
pruhki vietraź
skoūvaje namaraź
što było j što budzie jość zaraz
toje, što tam, toje ž i tut –

mała miejsca dla słova



студзень – сьнежань 2011

**УЯЎ** 7

Vide 8
Гуд 8
Verbum 9
0 < 9
Гавэнда (Бервяно ў воку) 10
𝄽 11
Трап 12
Марля 12
Зык 13
Гавэнда II 13
Адліў 14
Учорака (Сірочая) 14
*** (грамадзянкі грымяць...) 15
Імёны 15
Вы 16
3 < 16
Аблога 17
Баста! 17

**БІГ-БІТ** 19

Абыход 20
Водарасьць 21
Баба-рыба 21
*** (супакой вам!..) 22
Цвырк 22
Дуля 23
Пупок 23
Біг-біт 24
Юры 24
Scherzo 25
Хоку 25
Парадак 26
Крыжыкі ды зьнічкі 26
Miriam, im memoriam 27
Агрэст 27
Павестка 28
Пан Я. 28
Без 29
То ён 30
Напоі 31
Цырульнік 32
*** (ці буду я пасьля сьмерці?..) 32

**ЯК СТАЦЬ СЬВЯТЫМ** 33

Маршоўка 36
Хораша 36
*** (ківач матляўся марудна...) 37
Ума 37
Сустрэча 38
Капрамонт 39
Зраньня 39
Маўчы за разумнага... 40

Fluor 39
Як стаць сьвятым? 39
Як стаць філёзафам? 40
Як стаць местачкоўцам? 40
За шклом 41
Крытыка 42
Маладарослыя 42
Сьветачы 43
Дзяды 43
Дыярыюш францішканца 44

**ПАЭМА М** 49

**ЧЭРАП І ЧЭЛЕС** 57

Астралябія 58
Дроб (Народны склон) 59
Філязафовіч 59
Блякнот рабкора 60
Лічбы на сэрцы 61
*** (дом не выпускае...) 61
Raus 62
Жывапіс 62
Ты/я 63
Прыродазнаўства 63
Жыдаў дождж 64
Згары долу 64
Статыка 65
Жалюзі 65
Хто? 66
Эпізоды 66
Біліндрасы 67
Д/Рэвалюцыя 67
Тло 68
Urbi 68

**МАЛАПАНАНАПАЛАМ** 69

Рачыныя сьпевы 70
Паданкі 70
Язык 71
Зрэз 71
Бяз руху 72
Жоў 72
Сацыяманія 73
Мазаіка 73
Напаўзень 74
Шлях 74
*** (бегае котанька...) 75
Xerox 75
Водбліскі 76
ХМЛН 76
*** (дыміцца глей...) 77
Тыдзень 77
*** (маё цела ляжала...) 77
Варш/таты 78

**АЎТАР МАЕ РАЦЫЮ ЗАЎЖДЫ** 83

Пазыч мне грошык, браце 84
24/7 85
Auka 86
Zoo 87
Монабожны 87
*** (тупат натоўпу…) 88
Папар 88
Зэніт 89
Індывід 89
Сон 90
На мармуры 90
Пачасун 91
Ad mora da 92